# Пасьля Маскоўскай Канфэрэнцыі...

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

У справаздачы аб дакладзе Хрушчова гаворыцца аб тым, што ён даў «глыбокую аналізу сучаснага сьветавага разьвіцьця й міжнароднага камуністычнага руху» і што «камуністычная партыя Савецкага Саюзу перапоўненая няўхільнай паважанасьцяй умацоўваць вузлы братняй дружбы з камуністычнай партыяй Кітаю, зь вялікім кітайскім народам». Сфармуляваньне трохі дзіўнае! Атрымліваецца так, як быццам дагэтуль гэтыя амінозныя «вузлы братняй дружбы» наагул не ўмацоўваліся, або патрабуюць цяпер якіхсьці асаблівых, новых мераў дзеля іхнага ўмацаваньня.

Ацэньваючы агульны зьмест цытатаў з хрушчоўскага дакладу і артыкулаў, прысьвечаных вынікам Маскоўскай Канфэрэнцыі, трэба сказаць, што ў іх поўнасьцю адсутнічаюць тры наступныя аснаўныя элемэнты, якія характарызавалі Дэклярацыю Маскоўскай Канфэрэнцыі кампартыяў:

1) Няпрымірнасьць пазыцыі ў дачыненьні да ЗША і тэза аб неабходнасьці стварэньня сьветавага фронту змаганьня супраць іх; 2) тэза аб тым, што цяперашні гістарычны пэрыяд зьяўляецца апошняй і канчальнай фазай змаганьня з капіталізмам; 3) тэза аб поўнай актывізацыі рэвалюцыйнасьці камуністычных партыяў сьвету.

Адсутнасьць гэтых аснаўных мамэнтаў у кампаніі падвядзеньня ў СССР вынікаў Канфэрэнцыі кампартыяў карэнным чынам зьмяняе ейную сутнасьць, гэтым самым высоўваючы аб ей зусім асобную савецкую вэрсію.

У характарыстыцы заіснаваўшай неадпаведнасьці між пастановамі Маскоўскай Канфэрэнцыі й апошнім разьвіцьцём савецкай палітыкі мае значаньне й ейная прадгісторыя. Было заўважана, што на Маскоўскай Канфэрэнцыі 81-ой кампартыі савецкая дэлегацыя аставалася ў меншыні. У пастановах Канфэрэнцыі браў выразную перавагу кітайскі пункт гледжаньня. КПСС у Дэклярацыі было прадстаўленае толькі намінатыўна-пачэснае першае месца й вядучае палажэньне ў той час, як усе асноўныя папярэднія рысы савецкай палітыкі зусім ня былі ўспомненыя. Асталася зусім ня ўспомненай звыш году прыгатаўляная Хрушчовам акцыя прымірэньня із ЗША, якая была закончаная ягонай паездкай у 1959 годзе ў Амэрыку, названай савецкай прапагандай «місіяй добрай волі».

Было выразна, што пасьля заканчэньня маскоўскай нарады савецкая кіруючая верхавінка аказалася ў стане поўнай дэзарыентацыі. Сьнежанскі пленум ЦК быў адложаны, спачатку навет на нявызначаны час, што ніяк нельга было выясьніць няўдачамі сельскагаспадарскага году, бо да палавіны сьнежня ўсе вынікі яго былі ўжо ведамыя.

Цікавым мамэнтам гэтага пэрыяду зьяўляецца й адыход на другі плян самога Хрушчова, які на працягу цэлага месяца ня выступаў публічна. Пасьля заканчэньня нарады кампартыяў ён навет ня прысутнічаў ні на адным з прыёмаў або мітынгаў, арганізаваных у гонар старшыні Кітайскай Народнай Рэспублікі — Лю Шао-ці і кітайска-савецкай дружбы. Аб'ясьніць ягоную адсутнасьць грыпай, як гэта рабілася ў заходняй прэсе, было-б вялікай памылкай. Ведама, што ніякіх пацьверджаньняў ягонага захворваньня ў савецкай прэсе ня было. На сэсіі Вярхоўнага Савету СССР, што адбылася 20-23 сьнежня, меўся адбыцца даклад Хрушчова аб вонкавай савецкай палітыцы на 1961 год. Выглядала-б, што ў сувязі з Маскоўскай Канфэрэнцыяй прапазыцыі вонкавай палітыкі СССР у пляне пастановаў, выложаных у Дэклярацыі, даў на сэсіі ЦК КПСС. Аднак гэтага ня сталася. Даклад міністра замежных справаў СССР Грамыкі аб вонкавай палітыцы, зроблены ў прысутнасьці Хрушчова, не зьмяшчаў якіх-небудзь канструктыўных мамэнтаў.

Першай паўнаважкай палітычнай заявай ЦК КПСС пасьля нарады кампартыяў было навагодняе выступленьне Хрушчова, якое раскрыла карты ЦК КПСС у дачыненьні да пазыцыі, занятай ім да пастановаў засядаўшага ў Маскве пракітайскага новага Камінтэрну.

Як відаць, савецкая кіруючая верхавіна на працягу месяца пераварывала сваю няўдачу і, выкарыстаўшы прысутнасьць у Маскве кіруючага ядра партыі, што зьехалася толькі ў канцы сьнежня на сэсію Вярхоўнага Савету СССР, канчальна ўстанавіла свае дачыненьні да нарады кампартыяў і лінію сваей будучай палітыкі. Фактычна толькі цераз месяц пасьля заканчэньня Маскоўскай нарады ўва ўсіх саюзных рэспубліках, вобласьцях і буйных гарадох былі праведзеныя партыйныя актывы ў пытаньнях вынікаў нарады, на якіх, у сувязі з важнасьцяй палажэньня выступілі з дакладамі толькі сябры і кандыдаты прэзыдыюму ЦК КПСС.

Аналізуючы навагодняе выступленьне Хрушчова й характар нарады кампартыяў можна сьцьвердзіць, што ЦК КПСС пастанавіла ў значнай меры аднавіць курс вонкавай палітыкі канца 1959 году, курс на практычнае збліжэньне із ЗША.

Гэтая пастанова, відаць, была выкліканая прычынамі палітычнага, эканамічнага й псыхалягічнага характару.

Палітычныя прычыны палягалі ў тым, што савецкае кіраўніцтва пачынае палохацца магчымасьці далейшых рэзкіх шагоў камуністычнага Кітаю на міжнароднай арэне, якія могуць уцягнуць СССР у лішня рызыкоўныя й передчасныя складаныя палітычныя камбінацыі. ЦК КПСС лічыць, відаць, што сваей самастойнай палітыкай ён зьменшыць магчымасьць праяўленьня падобных кітайскіх тэндэнцыяў.

Эканамічная прычына ў пастановах савецкага кіраўніцтва іграе, відаць, яшчэ большую ролю. Савецкі Саюз другі год церпіць вылучныя няўдачы ў сельскай гаспадарцы. Ня меней клопатаў прыносіць савецкаму кіраўніцтву і праблема аўтаматызацыі індустрыі і шырака маштабнага будаўніцтва новых відаў хімічнай прамысловасьці. Больш-менш пасьпяховае выкананьне 7-гадовага пляну залежыць ад магчымасьці атрыманьня адпаведнага абсталяваньня ад высока разьвітых краінаў Захаду. Дзеля гэтага ЦК КПСС зацікаўлены ў запраўдным стварэньні больш цьвёрдых эканамічных дачыненьняў з заходнімі краінамі і ў першую чаргу із ЗША.

Псыхалягічная прычына пастановы ЦК КПСС палягае у тым, што ў цяперашніх умовах важныя палітычныя й дзяржаўныя справы разьвязвае ў СССР не аднаасабовы дыктатар, навет ня прэзыдыюм і не сакратарыят ЦК. У цяперашні мамэнт навет ЦК КПСС павінен прыслухоўвацца да настрояў усяго кіруючага слоя дзяржавы й лічыцца зь ім. Для ўсяго гэтага кантынгэнту буйных партыйных, гаспадарскіх, ваенных і адміністрацыйных кіраўнікоў падпасьці пад перавагу Пэкіну нясумесна зь іх псыхалягічным пачуцьцём дзяржаўнай гордасьці.

Усе сяньняшнія дэклярацыі аб «маналітнасьці» камуністычнага руху не адказуюць запраўднасьці. За апошнія два месяцы гэтае і раней досыць праблематычнае адзінства атрымала канчальную трэшчыну, якую нельга прыхаваць ніякімі запэўненьнямі аб «непарушнай савецка-кітайскай дружбе». Трэба думаць, што ЦК КПСС прадпрыме новыя спробы дзеля паправы сваей вядучай ролі ў сьветавым камуністычным руху, каб стаць паўнаўладным кіраўніком нанава створанага Камінтэрну й ягоных падпарадкаваных арганізацыяў.

Аднак, ня трэба цешыцца тым, што ЦК КПСС, робячы прапановы Задзіночаным Штатам Амэрыкі, ня будзе прабаваць паставіць свайго партнэра ў найменш выгаднае палажэньне і ў меру магчымасьцяў выцясьняць яго із сфэраў палітычнага й эканамічнага ўплыву ды не забываць таго, што савецкая прэса паранейшаму перапоўненая нападамі на розныя бакі амэрыканскай палітыкі. У канчальным выніку ЦК КПСС, таксама як і Кітай, імкнецца да заваяваньня сьветавага панаваньня. Розьніца палягае толькі ў мэтадах і тэрмінах.

(«Аналіз бягучых падзеяў у СССР» «Інстытуту Вывучэньня СССР» за 17 студзеня 1961 г.).

# Да Міжнароднай Канфэрэнцыі аб палітычнай вайне Саветаў

(Глядзі «Бацькаўшчына» № 50-51, 1960 г.)

### Апошняе паседжаньне і актыўны ў ім удзел эмігрантаў

Ня гледзячы на тое, што паводля праграмы і ў папярэдніх 4-х паседжаньнях, пасьле дакладаў стаяў заўсягды пункт — дыскусыі, з прысутных амаль ніхто ня браў слова. А гэта дзеля таго, што, па першае: кажнае паседжаньне амаль поўнасьцю абсарбавала час самымі дакладамі, на другое, што даклады гэтыя былі настолькі фахова прырыхтаваныя й вычэрпываючыя тэматыку, што мала чаго можна было да іх дадаць.

Тым ня менш кажны із эмігрантаў вымярковываў, каб неяк улучыць мамэнт для свайго народу перад так паважнай аўдыторыяй.

Нагода такая найбольш прадстаўлялася ў апошнім 5-м паседжаньні, дзе для агульных дыскусіяў прадбачалася каля 2-х гадзінаў часу.

Адылі сталася і тут замінка.

Жадаючых выступіць, эмігрантаў і не эмігрантаў, запісалася каля 20-ці асобаў. Старшыня паседжаньня, былы італьянскі міністр Лёмбардо, абвесьціў, што змушаны, дзеля гэтага выступаючых абмежыць 10-ці хвілінным часам.

Першыя 3 аратары адылі не датрымалі свайго тэрміну. Амэрыканскі генэрал з НАТО, за ім два францускія дэпутаты, былыя камуністыя, асабліва, гаварылі кажны амаль па паўгадзіны. Усе іх выступленьні былі досыць цікавыя, і старшыня ня важыўся іх перарваць. Рэшта затое, у залі, відавочна пачала праяўляць пэўную нэрвовасьць, асабліва калі старшыня аб'явіў, што будзе даваць цяпер толькі часу па 5 хвілінаў. Каля стала прэзыдыюма паднялася мітусьня, падбягаючых з залі з запіскамі, «змаганьне» за слова, каб «Божа барані яго не абмінулі».

У гэтым «2-м турнэ» «дыскусыі» прынялі ня цікавы характар. Былі гэта хутчэй, у форме таго ці іншага сорту, заявы, часамі пасьпяхова скомканыя, дзеля таго спакайнейшыя і сталейшыя людзі, калі іх падходзіла чарга, адмаўляліся ад слова.

### Інцыдэнты

Першы інцыдэнт быў выкліканы выступленьнем маладога Украінца з групы АБН, які паставіў быў сабе заданьне даказаць аўдыторыі, што не камунізм, а расейскі імпэрыялізм зьяўляецца загрозай сьвету. Выступ гэтакі аказаўся вельмі нефартунным. Дакладчык ня ўлічыў таго, што ні час, ні абставіны не дазвалялі на вынясеньне гэткае праблемы для дыскусыяў, таму старшыня паседжаньня некалькімі папярэджаньнямі выкурыў затым аратара з трыбуны раней, чым ім быў выкарыстаны і без таго так скупы час. А якісь старэйшы Немец выступіў з зваротам да старшыні паседжаньня, каб не даваць нікому больш слова ў падобных «нападах» на рускі народ, які «церпіць», «змагаецца» і г. д.

Старшыня паседжаньня затым, па 3-4 кароценькіх выступах іншых, аб'явіў, што дыскусыі зачыняе зь недахопу часу і што прыступаецца да прыняцьця рэзалюцыі.

Першая запрапанаваная Арганізацыйным Камітэтам Рэзалюцыя агульна палітычнага характару ў форме звароту Канфэрэнцыі да вольнага сьвету — **ня** выклікала ніякіх засьцярогаў і была прынятая праз аклямацыі (тэкст гэтай рэзалюцыі — глядзі «Бацькаўшчына» № 1-2, 1961 г.).

2-я рэзалюцыя, якой канфэрэнцыя даручала сучаснаму Арганізацыйнаму Камітэту стварыць Тымчасовае Бюра, **якое** ў першую чаргу павінна ўвайсьці **ў кантакт** з **ужо** існуючымі антыбальшавіцкімі арганізацыямі, дзеля каардынацыі працы — прынята была канфэрэнцыяй таксама праз аклямацыі.

### 2-гі інцыдэнт

Другі інцыдэнт, унёсшы значна больш дысананс у пануючую дагэтуль **гэтак** паважную атмасфэру Канфэрэнцыі, **быў** выкліканы паданай рэзалюцыяй «Сатэлітамі» ад імя «АСЭН».

У гэтай рэзалюцыі, што **прапанавалася** да прыняцьця Канфэрэнцыі, былі **пералічаныя** **толькі** 9 «сатэлітных» **народаў,** пачынаючы ад Альбанцаў, канчаючы 3-ма балтыцкімі народамі, і сьціровываўся заклік, ад імя канфэрэнцыі, **да** вольнага сьвету, аб іх вызваленьні, **як** народаў, якім **Савецкі Саюз** накінуў сілай камуністычныя ўрады...

Характэрна, што дыскрымінуючага **характару** гэтай рэзалюцыі ў дачыненьні да іншых, нерасейскіх у васаблівасьці ,народаў, не дабачылі прысутныя на **канфэрэнцыі** «нацыяналістыя» з **колаў** АБН-аўцаў, бо адразу-ж па **зачытаньні** яе старшынёй паседжаньня, аўтаматычна з цэлай аўдыторыяй, як і на папярэднія дзьве рэзалюцыі, зарэагавалі **воплескамі.**

Супраць прыняцьця гэтай рэзалюцыі энэргічна запратэставалі **толькі прэз.** Абрамчык і Н. Цэнцадзэ.

Цэнцадзэ, выхваціўшы зь кішані тэкст сваей рэзалюцыі, якая была ўвязана ў тэкст яго прамовы, якую ён меў сказаць, але да чаго, як мы бачылі вышэй, не дайшло, пачаў яе чытаць і камэнтаваць цяпер.

Сатэліты на гэта адказалі бунтам, да іх прылучыліся салідарыстыя з НТС — за імі падняўся шум і выкрыкі, якія заглушылі нятолькі чытаньне Цэнцадзэ, але і грамовы голас старшыні, **хоць як** ён ні намагаўся перакрычаць залю.

З паўсотні падняло рукі, просячы голасу. Прычым было немагчыма разабрацца, хто за што, хто **проціў** чаго.

Нарэшце старшыня, выкрыкнуў з усяе сілы, да Цэнцадзэ — «падайце Вашу рэзалюцыю на пісьме» — а да Абрамчыка —«калі ласка на трыбуну».

Прэз. Абрамчык, прадставіўшыся аўдыторыі як старшыня Лігі **Вызваленьня** Народаў СССР і пералічыўшы **гэтыя народы,** заявіў:

«Мы ня проці гэткае **рэзалюцыі ў прынцыпе,** але проці таго, што **выдзя-**

**(Заканчэньне на 4-ай бачыне)**

Я лётаў думкаю-б і воляй непакорнай
І мажа-б там пазнаў цябе, Адвечнасьць.

Дзіўлюся я на зораў ясных зьзяньне,
На сьцежкі іх, ўсё тыя-ж, як прад векам,
І сумна мне, і родзіць сум пытаньне:
Нашто пачаўся я ад Бога — чалавекам?

* *
*

Як ліст вярбінкі маладой,
Што вецер злосны адарваў
І ў рэчку кінуў і з вадой
У даль няведаму пагнаў, —
Плыву сабе. Рака мая — жыцьцё,
Па ёй плывуць і кветкі і сьмецьцё.

Я раз спытаўся у вады:
— Скажы, адкуль ты прыцякла?
Яна сказала: — Спад грады
Каменных гораў уцякла.
— Куды-ж *бяжыш?* — Цяпер бягу над спад
У мора сіняе. — А вернешся назад?

— Над мной закон — калазварот.
Плыву я з мора ў вакіян
І стуль зьбіраюся ў зварот,
Калі узьнімецца туман,
І ўзьляжа ноч. Ляту хутчэй тады —
Цячы ракой спад горнае грады.

Як ліст вярбінкі маладой,
Што вецер злосны адарваў,
І я плыву сваёй ракой,
Жыцьцём якую хтось назваў.
Нясець яна і кветкі і сьмецьцё...
А ты-ж скажы, ці вернешся, жыцьцё?

## НЯЗНАНЫ ГОСЬЦЬ

Дзіцятка малое у жыцьце прыйшло.
Спытаўся ў яго я: — А дзе-ж ты было?
Скажы мне, пісклятка, ў якіх гарадох?
Скажы мне, дзіцятка, ў далёкіх краёх?
Скажы, анялятка, ці доўга блукаў?
Скажы мне, ягнятка, каго ты спаткаў?
Скажы мне, малое, ці быў ты ў раю?
Скажы, залатое, ці долю сваю
Ў Эдэме пабачыў, спаткаў, палюбіў?
Ці што, неабачны, благога зрабіў?
Напрыкрыўся ў небе? Ці сум сустрачаў?
Па іншым жыцьці, што ты гэтта пачаў?
Скажы мне, малое! Хачу я пазнаць,
А дай, залатое, цікавасьць спагнаць.

І ціхай задумы заслона зышла
З спакойнага твару, і хмарка найшла;
З блакітненькіх вочак, што зь неба прынёс,
Скаціліся сьлёзкі, — дзьве пэрлінкі сьлёз.
Аб чым яно плача? аб райскіх садох,
Аб кветках праменных? анельскіх сьпявох?
Аб чыстасьці, яснасьці, сьвятасьці душ?
Тварца маестатнасьці? Дзеткі, чаму-ж?
Аб чым ты заплакала? — Мне у вадказ
Скаціліся новых дзьве пэрлінкі ўраз.

## МАТЧЫН ДАР

Як радзіла маці мяне ў цёмну ночку
Дык дала скрыпіцу: «На, і грай, сыночку!
Грай сабе на шчасьце, грай на добру долю,
Грай на век даўгуткі, грай на вольну волю».

Помню, дзіцянёткам я з тугой ня знаўся,
Жыў, як тая птушка, граў і забаўляўся;
Дзень мне быў спакойны, ўночы сон бязгрэшны,
А цяпер застаўся я навек няўцешны.

Ой, чаму-ж, матуля, жыцьцё-йскрыпку дала,
Як іх шанаваці, дый не навучала?
Гэта-ж падзівіся — я адкрыцца мушу,
Што папсуў скрыпіцу, што згубіў я душу.

Здаўна, сівакрыла, шчасьця я ня маю,
Долі я ня бачу, радасьці ня знаю.
Граю, праўда, граю!.. А на сэрцы важка,
А у сэрцы больна, аж трываці цяжка.

Тыя ня прыходзяць песьні-весялушкі,
Як пяе зямліца, як шчабечуць птушкі.
Жаль з нудой заплачуць, глуха як заграю...
Маю я скрыпіцу, а душы — ня маю!

## ПАЭТУ

Што кажаш мне, паэт, аб праўдзе тэй, што будзе?
Мне сэрца кроіцца ад крыўды нашых дзён!
А бачу добра й сам: ідуць да праўды людзі,
Расьцець яе жаўнер, і шырыцца загон.

Марудна, братачка! І покуль сонца ўзыйдзе,
Дык вочы выесьць нам салоная раса,
І покуль першы дзень людзкога шчасьця прыйдзе,
Мільёны сэрц праткне гароты злой каса.

Пакінь, пакінь сьпяваць аб праўдзе тэй, што ў небе!
Яна ня сходзіць к нам у кончаей патрэбе,
Яна ня сходзіць к нам у кончаей патрэбе,
Калі пакуты дзень так довег і ня міл!

Прашу цябе, мой брат, сьпявай аб нашым горы,
Аб тым, што ёсьць цяпер і што даўней было,
І што на ўсякі твар кладзець, як плуг, разоры,
І што ў мільёнах душ разоры правяло.

Прашу цябе, сьпявай аб горы песьнь адну ты,
І наш гаротны лёс рабі яшчэ цяжэй;
Тады, побачыш сам, парвуцца духу путы,
І будзе ясны дзень да нас тады бліжэй.

**(Далей будзе)**

